


*Навучыцца лічыць — гэта вельмі проста! А з маленькімі гарэзамі, што жывуць на вёсцы, лічэнне робіцца вельмі вясёлым. Разам з лічбамі запомні, як клічуць дзетак жывёл.*



# Лічым дзетак жывёл

*Алена Герашкова*

*Малюнкі Вольгі Раманюк*



*Палічы, колькі на малюнку грыбоў, матылькоў, рыбак. Запішы свае адказы ў квадраты.*



Жарабя — амаль што конь.
Звацъ каня майго Агонь!
Ён адзін, ды не сумуе,
Бо са мною ён сябруе.

1

*Абвядзі літары па кропках*

ЖАРАБЯ

2



У каровы два сынкі —
Два цяляты, два бычкі.
Хоць рагоў пакуль не маюць,
Але ўсіх наўкол бадаюць!

ЦЯЛЯ








Назовы дарослых жывёл і іх дзетак часам зусім не падобныя: у каровы — цяляты, у кабылы — жарабяты. А ці ведаеш ты яшчэ такія непадабенствы?



3

Казлянят вясёлых — тры.
Жвава скачуць у двары.
Трэба іх падгадаваць —
Будуць малако даваць.

КАЗЛЯНЯ

ГУСЯНЯ

Гусяняты ўчатырох
Дружна лапкамі плёх-плёх.
І ад ранку без канца
У ваду даюць нырца.

*Расфарбуй лічбы ва ўлюбёныя колеры*



5 4

Пяць пісклівых куранят
Будзяць сонца на свой лад.
Вельмі хочуць кураняты
Кукарэкаць лепш за тату.

КУРАНЯ

**Для цікаўных**

Назовы дзяцей жывёл могуць мець некалькі канчаткаў: жарабя — жарабё, казляня — казлянё. Паспрабуй зрабіць такі ж ланцужок з назвамі іншых жывёл.








# Казка пра спадарыню Мышэвіч

*Напісала і намалявала Беатрыкс Потэр,*
*пераказала Алена Байка*



Даўным-даўна жыла сабе адна лясная мышка, і звалі яе спадарыня Мышэвіч.

Жыла яна ў насыпу пад жывой агароджай.

Які дзіўны быў у яе дом!



Доўгія-доўгія лёхі вялі да кладовак і скляпоў, дзе былі назапашаны арэхі ды зярняты, і ўсё гэта было ў карэннях жывой агароджы.

Былі ў тым доме кухня, гасцёўня, камора ды закаморак.

Ну і, вядома ж, мела спадарыня Мышэвіч спальню з маленькім утульным ложачкам.

Спадарыня Мышэвіч была надзвычай ахайнай мышкай. Штодня яна падмятала пясчаную падлогу ў сваім доме.

Часам жучок збіваўся ў лёхах з тропу.

— Гэць! Прэч! Брудныя ногі! — шчыравала шуфлем спадарыня Мышэвіч.

Ці забегла неяк старэнькая спадарыня ў чырвоным плашчы ў кропачку.

— Богаўка-багоўка, ляці на небка! Там твае дзетачкі ядуць цукерачкі! — параіла ёй спадарыня Мышэвіч.



А неяк вялікі тоўсты павук завітаў, каб схавацца ад дажджу.

— Перапрашаю, хіба гэта не спадарыня Працэвіч?

— Хадзі прэч, нахабны павук! Паналяпляў тут павучыння па ўсім маім чысцюткім доме!



Яна вытурыла павука праз акно. І ён хуценька ўцёк па тонкай доўгай лёсцы.

Аднойчы спадарыня Мышэвіч выправілася ў далёкую кладоўку, каб узяць да абеду вішнёвых костачак ды насення дзядоўніка.

У лёху яна прынюхвалася і ўглядалася ў падлогу.

— Чую пах мёду. Гэта што, кветкі лотаці ля агароджы? Тады хто тут натупаў бруднымі нагамі?



Нечакана за рогам яна сустрэла Бзыка Чмялевіча.

— Бзбом-бом! — сказаў Бзык.

Спадарыня Мышэвіч сувора паглядзела на яго. Шкада, што яна не мае з сабой мяцёлкі!

— Здароў, Бзык Чмялевіч. Я не супраць завітаць да цябе, каб набыць воску. Але тут ты што робіш? І чаму ты заўсёды залятаеш праз акно ды бзычыш-гудзіш? — узласнела спадарыня Мышэвіч.

— Бзы, бзбом-бом! — раздражнёна прагудзеў Бзык Чмялевіч, бокам-паваліокам прашчыміўся праз лёх і знік у кладоўцы-жалудоўцы.

Кладоўка мусіла быць пустая: спадарыня Мышэвіч з'ела ўсе жалуды яшчэ да Калядаў. Але ў ёй было поўна моху з пацярухай.

Спадарыня Мышэвіч пачала была выцягваць мох. Тры ці чатыры пчалы высунуліся і шалёна загудзелі.

— У мяне няма звычкі здаваць жытло, гэта ўварванне! — паведаміла спадарыня Мышэвіч. — Прэч адсюль!

— Бзы, бззы, бззы!

— Цікава, хто б мне дапамог іх вытурыць?

— Бзбом-бом!

— Толькі не спадар Жабовіч, ён ніколі не выцірае ног.

*Дык хто дапаможа спадарыні Мышэвіч? Канец у наступным нумары...*






*Дыназаўры (“жахлівыя яшчары”, з грэч.* ***deinos*** *— жахлівы і* ***saurus*** *— яшчар) — так у 1842 годзе англійскі заолаг Рычард Оўэн назваў атрад выкапнёвых рэптылій. Час, калі на Зямлі жылі дыназаўры, называецца мезазойскай эрай. Мезазой падзяляецца на тры перыяды: трыясавы, юрскі, мелавы. У канцы мелавога перыяду дыназаўры цалкам вымерлі.*

*Г. Арсайла*



# Гіганты мінулага

За ўсю гісторыю Зямлі дыназаўры былі самымі вялікімі яе насельнікамі. Большасць з іх жыло каля 100 год. Сярод рэптылій былі гіганты і невялічкі, драпежнікі і вегетарыянцы, наземныя, вадаплаўныя і летуны...

Дыназаўры панавалі на планеце 150 мільёнаў год. За гэты час яны развіліся ў мноства відаў, з якіх цяпер вядомая толькі невялікая частка — каля 500 родаў і крыху больш за 1000 відаў.



*Уяві, нібы гісторыя планеты Зямля ад стварэння да нашых дзён доўжылася адзін год. Тады нараджэнне Зямлі адбылося б 1 студзеня, часы дыназаўраў насталі б у сярэдзіне снежня, а чалавек з’явіўся б у апошні дзень года.*

## *Адкуль бяруцца скамянеласці*



Калі рэптыліі паміралі, іх мяса згнівала альбо яго з’ядалі іншыя дыназаўры. Косткі звычайна разбураліся. Але некаторыя трупы дыназаўраў траплялі ў ціхія азёры, балоты, пакрываліся глеем і мінералізаваліся. Гэта значыць, камянелі. Рэчывы, з якіх складаліся косткі, праз тысячагоддзі замяніліся на мінералы з навакольных парод. Так косткі памёрлых дыназаўраў сталі цвёрдымі, як камяні, захаваўшы пры гэтым сваю форму.

Скамянеласцямі таксама называюць захаваныя адбіткі лап, рэшткі ежы яшчараў.





## *Сямейныя каштоўнасці*

Дыназаўры былі клапатлівымі бацькамі. Яны будавалі гнёзды, адкладалі яйкі. Калі дзеткі з'яўляліся на свет, бацькі прыносілі ім ежу, кармілі і даглядалі іх. Дыназаўрыкі выраставалі і пакідалі бацькоўскае гняздо, а праз нейкі час дарослыя рэптыліі зноў ладзілі гняздо на тым самым месцы.



Як выглядалі маляты-дыназаўры, навукоўцам "распавялі" скамянелыя яйкі. На жаль, зародкі рэптылій камянелі рэдка: іх косткі былі яшчэ занадта мяккія, таму найчасцей разбураліся. Яйка з цэлым зародкам палеантолагі лічаць вялікай удачай.

Яйкі дыназаўраў вельмі розніліся па форме і памерах: сустракаліся круглыя і доўгія, велічынёй з галаву чалавека і меншыя за курынае яйка. Прыкладам, 30-сантыметровыя яйкі тытаназаўра былі аб'ёмам з трохлітровы слоік! А сам тытаназаўр важыў каля 10 тон — прыблізна як 5 легкавых аўтамабіляў.

*Дзе жылі, чым харчаваліся, на каго палявалі дагістарычныя істоты? Адказы на гэтыя ды іншыя пытанні шукае палеанталогія — навука пра вымерлыя арганізмы.*

## *Чаму вымерлі дыназаўры?*

Дыназаўры вымерлі каля 65 мільёнаў гадоў таму. Пакуль невядома, чаму яны зніклі так раптоўна. Большасць навукоўцаў мяркуе, што на Зямлю ўпаў метэарыт, з-за якога пачаліся землятрусы, вывяржэнні вулканаў, у паветра падняліся хмары пылу і на доўгія месяцы закрылі Сонца. Загінулі расліны — асноўная ежа дыназаўраў-вегетарыянцаў, таму большасць відаў рэптылій знікла назаўжды.

*Калі ў старажытнасці знаходзілі гігантскія косткі дыназаўраў, іх лічылі косткамі антычных герояў, біблейскіх волатаў, а на Усходзе — рэшткамі драконаў.*



*Малюнкі Марыяны Руіз Віларэаль*




***Навукоўцы адшукалі каля тысячы розных дыназаўраў. Каб апісаць іх усіх, трэба шмат часу і паперы. Таму мы выбралі толькі семярых, але вельмі цікавых яшчараў.***





***Траадантыд*** быў найразумнейшы яшчар, мяркуюць навукоўцы, бо памер яго мазгоў адносна памеру тулава дазваляе лічыць гэтага дыназаўра такім жа кемлівым, як найбольш разумныя птушкі. А вось зусім маленькія мазгі былі ў 9-мятровага стэгазаўра — памерам з грэцкі арэх.

# 7 незвычайных дына…



***Тэрызіназаўр*** — найбольш недарэчны дыназаўр: яго ногі былі падобныя да птушыных, на доўгай шыі знаходзілася маленькая галава, пыса сканчалася бяззубай дзюбай, на пярэдніх лапах былі доўгія кіпці, а тулава пакрывала пер'е. Яму належыць рэкорд сярод дыназаўраў па даўжыні кіпцяў — каля 90 см.



***Грыпазаўр манументэнсіс*** — пераможца па зубастасці сярод старажытных яшчараў. Ён меў каля 800 зубоў: 300 знаходзіліся ў дзюбе і служылі для захопу ежы — жорсткіх раслін і невялікіх дрэў, яшчэ 500 раслі ў сківіцы.

# ...чайных ...заўраў

***Аргентыназаўр*** — найбуйнейшая істота, якая жыла на Зямлі: даўжыня яго каля 35—45 метраў, вага — каля 100 тон (прыблізна як 20 сланоў).





***Мікрараптар гуі*** — адзіны з вядомых сёння дыназаўраў, які лятаў. Пакрыты пер'ем, вельмі падобным да птушынага, ён мог лятаць з дрэва на дрэва. Акрамя таго, ён — адзін з найменшых яшчараў, ростам 30 см, вагой каля 1 кг.

***Анкілазаўр*** — дыназаўр-танк. Ягоныя галава і спіна мелі моцныя латы з касцяных пласцін, рагоў і шыпоў. Не меў панцыра толькі жывот, але ворагам цяжка было да яго дабрацца: анкілазаўр адбіваўся ад драпежнікаў вялікай булавой на хвасце.



***Тыраназаўр рэкс*** — найбольш вядомы дыназаўр і адзін з найбуйнейшых драпежнікаў: вышынёй з трохпавярховы дом, а даўжынёй з некалькі аўтамабіляў. Сваімі моцнымі сківіцамі ён мог нанесці мятровую рану. Гэты яшчар — галоўнае пудзіла фільмаў пра дыназаўраў.



*Цікавосткі збірала Ірына Бурносенка*




# Адшукай слова!

*Разгадай рэбусы*
*і даведаешся...*

***...якая расліна панавала на планеце ў часы дыназаўраў;***

“  +   + “ 

***...як завуць сваяка дыназаўраў, які жыве на Зямлі і сёння.***

 +  + H=Λ 



## Задачкі для маленькіх разумнікаў



**1.** Колькі дыназаўрыкаў трэба намаляваць, каб абклеіць імі кубік, наклейваючы па адным дыназаўрыку на кожны бок?



**2.** Над возерам ляцелі птэрадактылі. У іх разам 6 крылаў. Колькі птэрадактыляў ляцела над возерам?



**3.** Пасля абеду двое тыраназаўраў адпачывалі 4 гадзіны. Колькі гадзін адпачываў кожны з іх?

## Задачкі для вялікіх разумнікаў



**1.** “Колькі табе гадоў?” — спытаў 10-гадовы дыназаўрык старэйшага. “Я ўжо стары, дружа. Палічы сам. Калі б ты быў удвая старэйшы, чым цяпер, твой узрост склаў бы толькі чацвертую частку ад майго.”

Дык колькі гадоў было даросламу дыназаўру?

(80 гадоў)



**2.** Двое брахіязаўраў з’ядаюць 40 кг лісця за 1 гадзіну. Колькі кілаграмаў лісця за гэты час з’ядуць трое брахіязаўраў?

(60 кг)




*Не ведаеш, куды падзець кантэйнер ад шакаладнага яйка? З яго можна зрабіць сапраўднага дыназаўра! А калі яек шмат — атрымаецца цудоўны Дынапарк!*



# ВЯСЁЛЫ ДЫНА З ПЛАСТЫЛІНУ

*Алена Црашкова*

**Табе спатрэбяцца:**

- кантэйнер ад шакаладнага яйка;
- пластылін (пажадана аднаго колеру з яйкам);
- гарошына ці каштан.

*Фота Паліны Грынчанка*







**1.** Скачай тры доўгія таўставатыя каўбаскі. Першая каўбаска — гэта шыя з галавой. Прыляпі яе да адной палавінкі кантэйнера і крыху загні.

**2.** З адваротнага боку ляпі хвост, завостраны на самым канцы. А трэцюю каўбаску парэж на чатыры караценькія — гэта ногі.

**3.** Нарабі маленькіх «плямак» для вочак, рота, кіпцяў, скуры.

Калі падабраць колер пластыліну не атрымліваецца, абмаж кантэйнер цалкам.

## СЮРПРЫЗ!

Калі пуза дыназаўра не абмазваць пластылінам, у ім атрымаецца сапраўдная схованка!

А калі скарбу ў цябе пакуль няма, пакладзі туды каштан ці гарошыну. Тады пры “падскоках” у Дына будзе біцца сэрца!



Гарбузік
забаўляльна-навучальны часопіс для дзетак

Нашыя дзеткі
dzietki.org

Нумар падрыхтавалі:
рэдактары *Вольга Мазурава, Паліна Грынчанка*
камп'ютарная вёрстка і дызайн *Ірына Бурносенка*
пры дапамозе *Юліі Малахоўскай, Алены Церашковай*

# Крыжаванка



***Па гарызанталі:***

2. Першая жанчына.
5. Дрэва, на якім дрыжыць лісце.
7. Прылада для дранікаў.
8. Першы мужчына.
11. Неабходна, каб скокаць з вялікай вышыні.
12. Скура дрэва.
14. Не дабро.
15. Вядомы парны танец.
16. Псаванне чагосьці і марка аўтамабіля адначасова.
17. Самая выбітная частка твару.
19. Фізічнае ўздзеянне.
21. Памяшканне для збожжа.
22. Скруглены праход у сцяне.
24. Шмат-шмат вады.
25. Кручок для вопраткі.
26. Насякомае з тонкім станам.

***Па вертыкалі:***

1. Паверхня зямлі, намаляваная на паперы.
3. Стары месяц.
4. Моцнае жаданне.
6. Чалавекападобная малпа.
7. Смачная ягада.
9. Птушка, якая спявае нібы флейта.
10. Прымушае машыну рухацца.
12. Месца продажу і вядомы рок-гурт.
13. Там бабулькі прадаюць ураджай.
18. Яго неабходна пазначыць, каб дайшла пошта.
20. Аладзін (з мультфільма) па нацыянальнасці.
23. Не нага.

*Юлія Малахоўская*

Адказы да крыжаванкі, а таксама **дадатковыя матэрыялы** да гэтага нумара глядзіце на сайце dzietki.org